**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№24(636)**
**14 чэрвеня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## МНС інфармуе
**на 12.06.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 597;
Гібель людзей – 78, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3294,5 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 187 550 000 руб.





**Пераможца турыстычнага злёту – каманда выратавальнікаў.**
*Фота Я. Самсонава.*
*Працяг тэмы на стар. 11.*



## Зміцер Лупач абраны старшынёй глыбоцкай суполкі Таварыства Беларускай Мовы



**8 чэрвеня новым старшынёй Глыбоцкай раённай арганізацыі Таварыства Беларускай мовы абраны Зміцер Лупач, рэдактар газеты «Прэфект-інфо».**

Іосіф Адамавіч Навумчык, старшыня абласной арганізацыі ТБМ, ад імя ўсіх прысутных, падзякаваў Тацціяне Фёдараўне Барткевіч за шматгадовую плённую працу на пасадзе папярэдняга старшыні ТБМ Глыбоччыны.

*Ул. інф.*

## Праграма Урачыстасцяў Св. Яна Хрысціцеля ў Мосары. 23-24. 06. 2012 года.

**Падчас парафіяльнага Адпуста святога Яна Хрысціцеля 24 чэрвеня натоўпы пабожных людзей збіраюцца ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароў'е, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і благаслаўленне, аб якіх прыходзяць прасіць святога Юстына.**

Святкаванне парафіяльнага свята ў Мосары, устаноўленага Апостальскай Сталіцай і Святым Айцом Піем Х парафіяльнага Адпуста ў 1908 годзе, у дзень успаміну святога Яна Хрысціцеля ў гэтым годзе будзе па наступным раскладзе:

**23 чэрвеня (субота).**
10:00 – Святая Імша з навукай.
11:00 – Малітва на Ружанцы за сем'і, моладзь і дзяцей каля капліцаў.
13:00 – Святая Імша з навукай.
14:00 – 16:30 — адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнту ў капліцы.
17:00 – Акафіст з удзелам хору Уніяцкай царквы з г. Віцебска і г. Полацка і малітва на ўсходнім абрадзе.
18:00 – Святая Імша з навукай.
19:00 – малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры.

**24 чэрвеня (нядзеля).**
**Урачыстасць Святога Яна Хрысціцеля.**
10:00 – Святая Імша аб цвярозасці беларускага грамадства.
12:30 — літанія да святога Юстына.
13:00 — Урачыстая Святая Імша, якую будзе цэлебраваць Яго Эксцэленцыя ксёндз біскуп Уладзіслаў Блін – Ардынарый Віцебскай дыяцэзіі, пасля якой Працэсія вакол касцёльнай зямлі.
14:30 — выступленне парафіяльнага хору "Fiat" з парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў г. Мёры.

*Ксёндз Аляксей Юркайць,*
*адміністратар парафіі Мосар.*



### Шаркоўшчынскі раён

# Сцеражыся цягніка

■ Кастусь Александровіч

**Аб'ектамі павышанай небяспекі заўсёды былі чыгуначныя пераезды і проста чыгуначныя пуці, бо пасля падачы забараняльных сігналаў поезд можа падляцець сюды ўсяго праз 30-40 секунд.**

Аднак ці пра тое забываюцца нашы суайчыннікі, толькі ў 1-м квартале сёлета на Беларускай чыгунцы зарэгістравалі там 13 розных здарэнняў, смяртэльныя траўмы атрымалі 7 чалавек. Днямі позним майскім вечарам пасажырскі цягнік з Друі на Віцебск у Шаркоўшчынскім раёне збіў, на шчасце, не людзей, а жывёл. У гэтым здарэнні з-за халатнасці пастуха сельгаспрадпрыемства "Васюкі" пацярпелі 10 цялят. Ды і затрымка руху пасля інцыдэнту стала невялікай, усяго толькі на 10 хвілін. Высвятленнем абставін наезду сталі займацца супрацоўнікі Полацкага АУС на транспарце. На жаль, пачасціліся і ў нашым рэгіёне колькасць падобных выпадкаў. За апошніх няпоўных паўтара года толькі ў зоне абслугоўвання Варапаеўскай дыстанцыі пуці было зарэгістравана 5 выпадкаў наезду цягнікоў на пераездах на людзей і адно ДТЗ. У шэрагу з іх на пераездзе Круляўшчызна-Падсвілле была смяртэльна траўміравана 27-гадовая жанчына. У гэтай жа мясцовасці цяжкую траўму бядра атрымаў таксама жыхар вёскі Каралевічы Глыбоцкага раёна. На перагоне Глыбокае-Варапаева на шпалах ляжала 57-гадовая жанчына і цудам засталася жывой. У Пастаўскім раёне за год знайшлі сваю смерць на пуцях адразу тры жыхары, бо не былі там уважлівымі і асцярожнымі.

### Верхнядзвінскі раён

# Шануюць памяць земляка

■ Станіслаў Раманчук

**Так супала, што сёлетні Год кнігі ў Беларусі прыпаў на стогадовы юбілей аднаго з вядомых беларускіх пісьменнікаў Тараса Хадкевіча.**

На яго малой радзіме ў Верхнядзвінскім раёне пастараліся годна ўшанаваць памяць свайго знакамітага земляка, які пры жыцці стаў яшчэ і заслужаным работнікам культуры БССР. На яго родным бацькоўскім доме ў вёсцы Шайцерава з'явілася мемарыяльная дошка. Сціплую вясковую хату выкупіла мясцовае сельгаспрадпрыемства, добраўпарадкавала тэрыторыю побач з ёй, бо ў ёй мяркуецца стварыць дом-музей літаратара. У мясцовай школе ўжо ёсць з гэтай нагоды куток пісьменніка "Наш незабыўны Тарас" у кабінеце беларускай мовы і літаратуры з яго фотаздымкамі, кнігамі з аўтографамі Т. Хадкевіча і нават рукапісамі асобных твораў. Напярэдадні юбілею свайго таты сюды прыехалі з беларускай сталіцы яго дзеці – сын і дачка, якіх сустрэлі дзеці хлебам-соллю і парадавалі падрыхтаванай літаратурна-музычнай кампазіцыяй. У школе таксама збіраюцца адзін з пакояў пераўтварыць у музейную экспазіцыю, бо госці з Мінска прывезлі для будучага школьнага музея шэраг каштоўных экспанатаў і асабістых рэчаў аўтара, які быў блізка знаёмы ў свой час з Янкам Купалам і Якубам Коласам і іншымі класікамі беларускай літаратуры. Дарэчы, сын літаратара, Леанід Тарасавіч, сам музейны работнік паабяцаў школе ўсебаковую кансультацыйную і іншую дапамогу ва ўвекавечанні памяці паэта і празаіка, які пачаў друкавацца яшчэ ў далёкім 1925 годзе. У цэнтральнай раённай бібліятэцы ў райцэнтры захаваўся першы паэтычны зборнік Тараса Хадкевіча "Смялей, таварыш", выдадзены роўна 80 гадоў назад.

### Докшыцкі раён

# Вытрымаў удар пліты

■ Чэслаў Якубовіч

**Па ўсёй краіне, асабліва ў сельскай мясцовасці, застаецца шмат закінутых, нікому не патрэбных, незавершаных будынкаў і пустуючых гаспадарчых пабудоў.**

Вось і ў Докшыцкім раёне стаяў у пасёлку Круляўшчызна такі нікому не патрэбны цагляны калгасны дом. На яго паклаў вока 53-гадовы мясцовы жыхар і разам са сваёй сужыцелькай вырашыў адсюль забраць крыху цэглы для ўласных патрэб. Але ў той дзень пад вечар нечакана абрынулася на чалавека бетонная пліта. Яму пашанцавала, што моцны ўдар прыйшоўся не па галаве, інакш наступіла б імгненная смерць. На шчасце, пры разборцы мужчыну толькі сціснула, ён апынуўся пад заваламі, але выратавацца самастойна з такой бетоннай пасткі не меў ніякай магчымасці. На паратунак пацярпеламу выехалі спецыялісты мясцовага райаддзела па надзвычайных сітуацыях. З дапамогай спецыяльнага аварыйнага прыстасавання і абсталявання для рэзкі металу мужчына быў выцягнуты з-пад завалу і перададзены брыгадзе ўрачоў "хуткай дапамогі". Са шматлікімі пераломамі яго ў той вечар даставілі ў райбальніцу. У рэанімацыйным аддзяленні яго стан медзікі ацанілі як стабільна цяжкі. Аб далейшых перспектывах выздараўлення гаварыць пакуль складана, але спатрэбіцца працяглы час для зажыўлення атрыманых траўм. Вось толькі і дагэтуль тут рызыкавалі і таксама займаліся разборкай будынка іншыя мясцовыя жыхары, а для яго гаспадара ( калгаса) да гэтага не было ніякіх спраў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 14.06.12 | | | | Пятніца 15.06.12 | | | | Субота 16.06.12 | | | | Нядзеля 17.06.12 | | | | Пнд.18.06.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +17 | +19 | +18 | +14 | +16 | +18 | +17 | +14 | +15 | +19 | +19 | +13 | +18 | +24 | +20 | +13 | +17 | +21 |
| Ціск | 743 | 745 | 745 | 743 | 743 | 742 | 741 | 741 | 743 | 745 | 746 | 746 | 747 | 747 | 746 | 746 | 749 | 750 | 751 |
| Вільготнасць | 99 | 78 | 65 | 76 | 99 | 94 | 81 | 85 | 98 | 86 | 63 | 62 | 81 | 79 | 61 | 66 | 76 | 62 | 46 |
| Вецер м/сек | 1 С-В | 3 С-В | 3 В | 4 С-В | 3 С-В | 1 В | 3 С-З | 6 С-З | 6 С-З | 7 С-З | 8 С-З | 5 С-З | 2 З | 3 Ю-З | 7 З | 6 З | 4 З | 6 З | 6 З |



# Лічба нумара

**8390** – да такой адзнакі падаражэў долар у Беларусі на таргах Беларускай валютна-фондавай біржы ў пачатку сёлетняга лета. Адначасова на фоне пэўнай валютнай панікі на еўрапейскім кантыненце і неверагодных тэмпаў абясцэньвання расійскага рубля стаў істотна слабець і наш айчынны беларускі рубель, беларусы сталі забіраць назад свае рублёвыя ўклады. Для беларускага ўрада і Нацыянальнага банка РБ, а таксама для насельніцтва краіны такія тэндэнцыі, безумоўна, былі непрымныя, бо ў гэтым выпадку можа паўтарыцца, як у мінулым 2011 годзе, адток укладаў фізічных асоб з банкаў краіны.

З іншага боку сёлета пачалі праяўляцца больш спрыяльныя, чым летась, паказчыкі развіцця беларускай эканомікі. Дзякуючы ім непазбежна павінны былі зменшыцца стаўка рэфінансавання Нацбанка (яна ўжо знізілася на 11 %), а з ёй банкаўскія стаўкі па дэпазітах насельніцтва. Дарэчы, летась беларусы забралі з банкаў амаль 1,3 млрд. долараў сваіх зберажэнняў, прыкладна чацвёртую частку запасаў. Толькі калі валюта з'явілася зноў у свабодным доступе, суайчыннікі панеслі назад лішкі яе, бо значную частку патрацілі на пакупкі ( у першай палове года летась на іншамаркі перад павышэннем мытных пошлін пад націскам Расіі).

У гэтым годзе стабілізацыі на валютным рынку перашкаджаюць шэраг фактараў. За кароткі час за некалькі месяцаў па краіне заробкі ў доларавым вымярэнні выраслі амаль на трэць і наблізіліся да 400 долараў. Але пастаянна гучаць размовы аб далейшым росце заробкаў да міфічных 500 у. а. , што трывожыць беларусаў, якія добра памятаюць наступствы такога росту дабрабыту перад прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года. У выніку спецыялісты папярэджваюць, што на неспрыяльным знешнім фоне ў зоне еўра і рэзкага падзення расійскага рубля і ў нас будзе слабець нацыянальная валюта.

Праўда, гэтыя працэсы ў Беларусі, у адрозненне ад іншых, будуць праходзіць паступова. Нагадаем, што ў сакавіку-красавіку долар у адносінах да беларускага рубля апускаўся да 8 тысяч, але ў сярэдзіне мая ён ужо "падрос" да адзнакі 8260. Цяперашнія вынікі гандлёвых здзелак на біржы сведчаць аб паступовым аслабленні нашай нацыянальнай валюты. Можна чакаць зноў адтоку валютных укладаў з банкаў і пераводу іх у іншыя формы зберажэнняў. Тым болей, што існуе верагоднасць чарговага эканамічнага крызіса з-за падзення сусветных цэн на нафту ў нашага асноўнага саюзніка і гандлёвага партнёра – Расіі.

Ад расійскага рубля пазбаўляюцца тыя інвестары, якія не жадаюць мець справы і з еўра, шмат расійскіх доларавых капіталаў вывозіцца за мяжу. Нашы суседзі ўжо з мінулай восені сутыкнуліся з такой непрыемнай з'явай, як недастатковы попыт на іх прадукцыю і на нават энерганосьбіты. На сусветных рынках зніжаюцца цэны і на такія рускія экспартныя тавары, як металы, руда, вугаль. Беларусь таксама адчула зніжэнне цэн і попыту на свой важны экспартны тавар – калійныя ўгнаенні. У нас яшчэ летась, а ў расіян сёлета набрала моц тэндэнцыя скарачэння капітальнага і жыллёвага будаўніцтва. У абедзвюх дзяржавах таксама значныя складскія запасы непрададзенай гатовай прадукцыі.

І калі вялікая Расія са сваімі гіганцкімі валютнымі рэзервамі можа падтрымаць свой рубель, у нас такой магчымасці няма. Тым болей, у пачатку лета для беларусаў істотна падаражэлі жыллёва-камунальныя тарыфы, працягваецца рост цэн. Што будзе далей? Загадваць цяжка, але не выключана, што сітуацыя ў грашова-крэдытнай сферы можа пагоршыцца нават да чорных дзён мінулага года. Сёлета, да прыкладу, продаж айчынных аўтамабіляў у рамках Адзінай эканамічнай прасторы ў РФ сёлета зменшыўся ў 2 разы, у параўнанні з мінулым годам (летась такая выручка склала 1,25 млрд. долараў).

Пасля кароткага візіту ў Мінск У. Пуціна суседзі быццам дасягнулі поўнага ўзаемаразумення па асноўных ключавых пытаннях. Аднак ніяк не дасягнем згоды па пытаннях паставак у Расію беларускага парашковага малака, стварэння агульнага холдынга МАЗа і расійскага камАЗа. Самае страшнае, калі існуе залішняя заспакоенасць наконт устойлівасці беларускай валюты. Вось толькі, што мы будзем рабіць, калі рэзка пагоршыцца сітуацыя і яшчэ болей падаражае долар, калі Грэцыя адмовіцца ад еўра, у Расіі пачнецца рэцэсія эканомікі? А такі варыянт развіцця далейшых падзей магчымы…

## Дзень за днём

**І сёлета Беларусь засталася "лідарам" на постсавецкай прасторы па росту цэн. Нарэшце прынялі рашэнне аб выдзяленні РБ 3-га траншу крэдыту з фонда ЕўрАзЭС, а беларускае кіраўніцтва не адмовілася ад планаў продажу сваёй долі кампаніі МТС. Айчынныя банкі будуць цяпер прадаваць кватэры праблемных даўжнікоў. У беларускім Цэнтрвыбаркаме пацвердзілі найбольш верагодную дату парламенцкіх выбараў – 23 верасня. Мінская вобласць першай у краіне можа ўвесці поўную забарону на продаж пладовых він – "чарніла". На цэнтралізаванае тэсціраванне сёлета зарэгістрыраваліся 140 тысяч маладых беларусаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Егіпет.** Многіх жыхароў краіны страшыць магчымая перамога "Братоўмусульман" у 2-м туры прэзідэнцкіх выбараў, што прывядзе да глыбокага раскολу ў грамадстве і вайны.

**Грэцыя.** На выпадак выхаду краіны з зоны еўра многія краіны ЕС пачалі рыхтаваць планы выхаду з крызіса. Неверагоднымі тэмпамі пачаў зніжацца і рубель РФ.

**Азербайджан.** Урад краіны пачаў выплаты насельніцтву па "згарэўшых" укладах часоў СССР, амаль 2,4 мільёны азербайджанцаў атрымаюць 1,3 млрд. доляраў да канца 2013 г.

**КНДР.** Кіраўніцтва напоўгаладнай і самай закрытай краіны свету аб'явіла сябе ядзернай дзяржавай, раней тут правялі выпрабаванні ядзернай зброі, у тым ліку і пад зямлёй.

**Англія.** Двое журналістаў газеты The Sun падманам наведалі КНДР і ўбачылі шмат пустых дамоў на граніцы з Кітаем, агульную беднасць і бясконцыя помнікі Кім Чэн Іру з сынам.

**Казахстан.** На мабільнай пагранічнай заставе "Горная" на граніцы з Кітаем знайшлі забітых незразумела як афіцэраў, 3 кантрактнікаў і 11 салдат, у іх прапала зброя.

**Украіна.** Спецслужбы затрымалі двух 40-гадовых жыхароў Днепрапятроўска, якія вымагалі 4,5 млн. $ і арганізавалі серыю выбухаў, у якіх быў паранены 31 чалавек.

**Венесуэла.** Як паведамілі амерыканскія СМІ, прэзідэнту краіны Уга Чавесу засталося жыць "не болей, чым пару месяцаў" з-за агрэсіўнага тыпу хваробы раку, новых пухлін.

**Расія.** Карпарацыя "Энергія" з плавучай пускавой установкі ў экватарыяльным раёне Ціхага акеана паспяхова запусціла спутнік сувязі для пакрыцця тэлебачання Аўстраліі.

**Малаві.** Новы глава краіны, жанчына, Джойс Банда вырашыла прадаць прэзідэнцкі самалёт і 60 сваіх аўто класу люкс, каб дапамагчы беднейшым афрыканцам-суайчыннікам.

**Нігерыя.** Пасля падзення на жылы дом у буйнейшым горадзе краіны Лагасе самалёта загінула каля 200 чалавек, з іх 3 армейскія генералы і дзясяткі жыхароў двухпавярхоўкі.

**ЗША.** З-за ўдару маланкі ў штаце Нью-Мексіка адбыўся грандыёзны пажар, выгарэла тэрыторыя плошчай 700 кв. км, моцна пацярпеў нацыянальны лясны запаведнік Хіла.

**Ізраіль.** Знакамітая спявачка Мадонна падчас сусветнага гастрольнага турне па 68 гарадах свету загрыміравалася пад Лукашэнку ў адной відэакампаніі з Гітлерам і Мары Ле Пен.

**Швейцарыя.** На кангрэсе ФІФА пацвердзілі, што ў сусветным футболе чакаюцца змены, хутка адменяць пасляматчавыя пенальці, увядуць электронную фіксацыю ўзяцця варот.

**Расія.** У Санкт-Пецярбургу развіталіся з народным артыстам РСФСР Эдуардам Хілем, які памёр на 78-м годзе жыцця ад інсульта, быў папулярны як спявак у СССР і на Захадзе.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Барысаў.** Ужо ў наступным годзе на сумесным аўтазаводзе з кампаніяй "Джылі" (Кітай) у СЭЗ "Мінск" выпусцяць першых 10 тысяч беларускакітайскіх легкавых аўтамабіляў.

**Жодзіна.** Федэральная антыманапольная служба Расіі прызнала мясцовы БелАЗ парушальнікам Закона РФ "Аб абароне канкурэнцыі" за ўмяшанне ў дылерскія сеткі.

**Салігорск.** Амаль у 2 разы знізіліся пастаўкі калійных угнаенняў на экспарт сёлета ў "Беларуськалій", які вырашыў датэрмінова пагасіць кабальны крэдыт на 1 млрд. доляраў.

**Гомель.** Мясцовае ВА "Крышталь" стане ўпраўляючай кампаніяй новага ювелірнага холдынга, які ствараецца ў Беларусі з удзелам яшчэ двух фабрык і "Белювеліргандлю".

**Калінкавічы.** Дзяржветфітаслужба Украіны так і не зняла забарону на пастаўкі прадукцыі мясцовага мясакамбіната, а агракамбінат "Сноў" дапушчаны толькі з малочнымі вырабамі

**Гродна.** Фестываль нацыянальных культур запомніўся даждом і масавымі арыштамі 18 гараджан, пратэставаўшых супраць русіфікацыі адзінай у горадзе польскай школы.

**Столін.** Раней судзімы, беспрацоўны жыхар раёна змог зарабіць за 4 месяцы сёлета больш 0,5 млрд. рублёў на перапродажах цыгарэт, яму пагражае да 5 гадоў турмы за "бізнес".

**Хойнікі.** Паблізу вёскі Стралічава разбіўся вечарам лёгкаматорны аднамесны самалёт мясцовага прадпрыемства расійскай вытворчасці, загінуў 46-гадовы гомельскі пілот.

**Мінск.** Перад Алімпіядай у Лондане КДБ Беларусі арыштаваў гал. трэнера зборнай РБ па лёгкай атлетыцы Анатоля Бадуева пасля публікацыі "Прэсбола" аб яго махінацыях.

**Светлагорск.** За неаднаразовае атрыманне хабару да 4 гадоў і 9 месяцаў турмы асуджаны загадчык скурдыспансера бальніцы і на 3 гады ўрач-афтальмолаг мясцовай паліклінікі.

**Ліда.** Студэнт 3-га курса медуніверсітэта Яўген Маркевіч вырабіў тут на кроснах 200 ручнікоў, 20 нацыянальных дываноў і 120 метраў палатна для беларускіх касцюмаў.

**Магілёў.** Райаддзел Следчага камітэта РБ затрымаў двух 25-гадовых хлопцаў, якія за доўг 200 тыс. рублёў падпалілі і ледзь не спалілі 46-гадовага жыхара вёскі Сідаровічы.

**Баранавічы.** Фільм ураджэнца горада беларускага рэжысёра Сяргея Лазніцы "У тумане" атрымаў Гран-пры Міжнароднага кінафестывалю імя А. Таркоўскага "Люстэрка".

**Мінск.** Хакейную каманду КХЛ "Дынама" пакінулі два яе асноўныя ігракі: 38-гадовы варатар А. Мезін і нападаючы Д. Корса, падаў у адстаўку старшыня ФХБ Я. Ворсін.

**Магілёў.** Музей гісторыі горада зноў паспяхова правёў дабрачынную акцыю і выкупіў у Маскве арыгінальнае выданне Статута Вялікага княства Літоўскага 1595 года выпуску.

# Больш як на 230 спецыяльнасцях у ВНУ Беларусі ўвядуць скарочаны тэрмін навучання

■ Анастасія Янушэўская, БелаПАН.

**Больш як на 230 спецыяльнасцях у ВНУ Беларусі ўвядуць скарочаны тэрмін навучання — 4—4,5 года.**

Большасць ВНУ пяройдуць на скарочаны тэрмін навучання ў 2013/2014 годзе, але на некаторых спецыяльнасці гэта нававўвядзенне распаўсюдзіцца ўжо з наступнага навучальнага года.

Так, у 2012/2013 годзе павінен адбыцца пераход на чатырохгадовы тэрмін навучання на спецыяльнасцях «дзяржаўнае кіраванне і права», «дзяржаўнае кіраванне і эканоміка», «кіраванне інфармацыйнымі рэсурсамі».

З 2013/2014 года па чатырохгадовым тэрміне навучання пачнуць рыхтаваць філосафаў, тэолагаў, псіхолагаў, журналістаў, правазнаўцаў, эканамістаў, эколагаў, мытнікаў, спецыялістаў па камп'ютарнай бяспецы, літаратурных рэдактараў, сацыёлагаў і палітолагаў, а таксама судовых экспертаў, спецыялістаў для падраздзяленняў органаў пагранічнай службы, ракетных войскаў і артылерыі. Чатырохгадовы тэрмін навучання таксама зацверджаны для шэрагу тэхнічных спецыяльнасцяў — «нанатэхналогіі і нанаматэрыялы ў электроніцы», «штучны інтэлект», «квантавыя інфармацыйныя сістэмы», «інфарматыка і тэхналогіі праграмавання».

Для шэрагу тэхнічных спецыяльнасцяў зацверджаны тэрмін навучання 4,5 года. За гэты тэрмін будуць рыхтаваць спецыялістаў па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні аграпрамысловага комплексу, меліярацыі, лесаінжынернай справе.

Замест спецыяльнасці «матэматыка» (па кірунках) прапануецца ўвесці ў агульнадзяржаўны класіфікатар Беларусі дзве спецыяльнасці: «матэматыка» з тэрмінам падрыхтоўкі чатыры гады і «фундаментальная матэматыка» з тэрмінам падрыхтоўкі шэсць гадоў і наступнай выдачай выпускнікам дыплома магістра. Замест спецыяльнасці «фізіка» (па кірунках) прапануецца ўнесці ў класіфікатар тры спецыяльнасці: «фізіка» з тэрмінам падрыхтоўкі чатыры гады і «фундаментальная фізіка» з тэрмінам падрыхтоўкі шэсць гадоў і «ядзерныя фізіка і тэхналогіі» з тэрмінам падрыхтоўкі шэсць гадоў і наступнай выдачай дыплома магістра. Замест спецыяльнасці «хімія» — дзве спецыяльнасці «хімія» з тэрмінам падрыхтоўкі чатыры гады і «фундаментальная хімія» з тэрмінам падрыхтоўкі шэсць гадоў. Замест спецыяльнасці «механіка» — дзве спецыяльнасці: «механіка» з тэрмінам падрыхтоўкі чатыры гады і «фундаментальная механіка» з тэрмінам падрыхтоўкі шэсць гадоў і выдачай дыплома магістра. Аналагічная сістэма прынята ў Расіі.

Мяркуецца, што большасць студэнтаў будуць атрымліваць вышэйшую адукацыю за 4—4,5 года. Далей магчыма паступленне ў двухгадовую магістратуру. Зараз Мінадукацыі разам з навучальна-метадычнымі аб'яднаннямі ВНУ распрацоўваюць навучальныя планы і праграмы магістратуры, арыентаваныя на практыку.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На заводзе буйнапанэльнага домабудаўніцтва РУП "ДСК" прайшлі рабочыя хваляванні з-за затрымак выплаты красавіцкай зарплаты, людзі адмовіліся працаваць.

**Глыбокае.** Як і чакалася, з цэнтра горада прыбралі на "рэстаўрацыю" помнік крываногага Леніна, на сваё месца ля хрысціянскіх храмаў праваднр бальшавікоў наўрад ці вернецца.

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец даручыў упраўленню адукацыі павялічыць у два разы спіс абавязковай літаратуры для чытання дзецьмі на летніх школьных канікулах.

**Лепель.** Дзяржінспекцыя затрымала на тэрыторыі раёна браканьераў, якія незаконна налавілі ў перыяд нерасту ў вадалазным касцюме ракаў на больш чым 70 мільёнаў рублёў.

**Полацк.** На самым шматлюдным праспекце імя Ф. Скарыны ўстанавілі 75 новых энергазберагаючых свяцільнікаў "Фенікс" коштам 42 тысячы еўра і тэрмінам службы 15 гадоў.

**Ушачы.** Прыватная швейная фірма "Патоля", якая шые бялізну для знакамітай "Мілавіцы", абсталявала для сваіх работніц камфортны пакой адпачынку і прыёму ежы.

**Багушэўск.** Супрацоўнікі ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці набылі і перадалі падшэфнай санаторнай школе-інтэрнат збор кніг Беларускай і Савецкай энцыклапедый.

**Верхнядзвінск.** У прыёмным пакоі райбальніцы памерла веласіпедыстка, жыхарка прыгараднай вёскі Бароўка, якую днём збіў насмерць трактарыст з другараднай дарогі.

**Орша.** У рамках акцыі "Беларусь супраць тытуню" гараддзел міліцыі сумесна з грамадскасцю правёў рэйд па затрыманні грамадзян, якія курылі ў забароненых месцах.

**Віцебск.** Званне заслужанага артыста Беларусі атрымаў акцёр драмтэатра імя Я. Коласа Валянцін Салаўёў, яшчэ траім артыстам-коласаўцам уручылі медалі Францыска Скарыны.

**Талачын.** Школьныя стадыён вёскі Варанцэвічы, дзе ўдзяцінстве гуляў знакаміты трэнер і футбаліст зборнай СССР Георгій Кандрацьеў, узаралі пад новы ўчастак з бульбай.

**Лепель.** У заапарк Бярэзінскага біясфернага запаведніка перадалі навасёла, знойдзеную на лясной дарозе, пакінутую трохмесячную мядзведзіцу, пра лёс яе маці нічога невядома.

**Наваполацк.** Замежныя госці VII Беларускага медыяфоруму прыйшлі ў захапленне ад знаёмства з аграсядзібай "Кентаўр" Аляксандра Сердзюка на беразе Заходняй Дзвіны.

**Полацк.** На беразе Заходняй Дзвіны паблізу Кургана Бессмяротнасці прайшоў фестываль сярэднявечнай культуры "Рубон" з удзелам рыцарскіх клубаў шасці краін Еўропы.

**Віцебск.** Попыт на канцэрты фестывалю "Славянскі базар" аказаўся вялікі. Найперш разышліся квіткі на Верку Сярдзючку і на зорак Шансон-ТБ, якія будуць выступаць на адкрыцці свята мастацтваў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Наша дэмаграфія: Мёрскі раён

**Сяржук Васільеў,**
*г. Мёры.*

Усе мы ведаем, што насельніцтва нашай краіны змяншаецца, што ў нас дэмаграфічны крызіс. Як жа на гэтым фоне выглядае наш раён? У нашым раёне жыве 22 тысячы насельніцтва. З іх 10 тыс гарадское (8 тыс. у Мёрах, 2 тыс. у Дзісне), 12 тыс. на сяле. А вось паўстагоддзя назад у нашым раёне жыло 50 тыс. насельніцтва і было каля 1000 сельскіх населеных пунктаў. Гэта значыць, што з паўстагоддзя насельніцтва нашага раёна скарацілася ў 2 разы Колькасць населеных пунктаў таксама скарацілася ўдвая, цяпер і каля 450. Гэта даволі вялікая лічба. У іншых раёнах яна, як правіла, меншая. Але насельніцтва ў нас нават менш, чым у іншых раёнах.

У чым жа тут справа? Так спрадвеку павялося, што на тэрыторыі нашага раёна было шмат дробных населеных пунктаў (хутароў, засценкаў, калоніяў, ды і проста дробных вёсак). Увогуле, ва ўсёй Беларусі толькі на Браслаўшчыне колькасць вёсак болей, чым у нашым раёне. І гэта разам з дэмаграфічным крызісам дало вельмі цікавую сітуацыю ў нашым раёне. Ужо вышэй згадвалася, што ў нашым раёне звыш 400 населеных пунктаў. Дык вось, з іх 63 маюць насельніцтва ... 1 чалавек. Гэта прыкладна кожная 6-я вёска. Звычайны жыхар (не жыхары!) гэтай «вёскі» - састарэлая кабеціна. На другім «полюсе», калі можна так сказаць, 29 вёсак, дзе больш за 100 жыхароў. Але і з іх большасць мае толькі крыху больш жыхароў за гэтую лічбу. Толькі некалькі вёсак - па 200-300 жыхароў. І толькі Новы Пагост з Павяцкам – больш за 400, Пад'ельцы – каля 500, але гэта прыгарад Мёраў. І толькі Язна – самая вялікая веска – больш за 700. Такога рассялення няма, бадай, і ва ўсім свеце. Яшчэ прыкладна 30 вёсак маюць насельніцтва ад 50 да 100 чалавек. І больш паловы мёрскіх вёсак (53 % на 01.01.2011) не маюць і 10 жыхароў. А па дзяржаўнай класіфікацыі населены пункт, дзе пражывае менш за 50 асобаў, лічыца дробным, а дзе менш 20 – драбнейшым. Такім чынам, прыкладна 3 чвэрці населеных пунктаў нашага раёна адносяцца не проста да дробных, а да драбнейшых. А разам дробныя і драбнейшыя складаюць каля 85% усіх вёсак. А ў некаторых сельсаветах (Язненскім, Перабродскім, Павяцкім) гэты паказчык пераважае 90% Дарэчы, Язненскі сельсавет – цэнтр якога самая вялікая ў раёне вёска Язна, вызначаецца сваёй нейкай драбнотай. Тут кожная 4-я вёска - па 1 жыхару (13 з 59). 35 з 59 тутэйшых вёсак маюць менш за 10 чалавек, драбнейшых вёсак тут 47 (каля 80%). Ці трэба ўжо казаць пра 7 дробных (12%)? Разам – 92%!!! Дарэчы, у цэнтры сельсавета – Язне, жыве амаль палова ўсіх яго жыхароў. Але трэба сказаць, што гэта афіцыйныя дадзеныя, якія вельмі завышаныя, бо ўлічваецца, як вядома, тыя, хто прапісаны ў гэтым населеным пункце.

Да гэтага трэба дадаць суадносіны смяротнасці і нараджальнасці. Усяго за 2011 год у раёне нарадзілася 216 чалавек, а памерла 593. Амаль у 3 разы больш! Больш паловы ўсіх нарожданых нарадзілася ў гарадах (97 - у Мёрах, 14- у Дзісне). У вёсках - 105. Гэта прыкладна на адны народзіны на 120 чалавек сельскага насельніцтва за год. Але асабліва «вызначаецца» ў гэтым сэнсе Перабродскі сельсавет. Тут на 1580 насельніцтва, якое налічвалася на пачатак 2011 г., за гэты год нарадзілася 4 чалавекі!!! Прыкладна 1 на 400 чалавек. Праўда, і памёрла ў сельсавеце адносна няшмат – 26 чалавек, але гэта ў 6,5 разоў больш, чым нарадзілася. Увогуле, на сяле суадносіны тых, хто нарадзіўся і хто памёр, прыкладна 1:4 (па раёну 1:3). Са 179 шлюбаў, якія заключаныя за год на тэрыторыі раёна, на вёсцы заключана толькі 42, гэта прыкладна 1 шлюб на 300 жыхароў. А ва Узмёнскім сельсавеце на 1124 чалавекі насельніцтва быў заключаны ажно ... 1 шлюб!!! 1 на 1124 за цэлы 2011 г.!!! Ці патрэбны тут якія-небудзь каментары, шаноўны чытач! Увогуле, насельніцтва нашага раёна змяншаецца на 2% за год. Гэта значыць, наш раён можа вымерці дзесьці праз паўстагоддзя. Але ж да гэтага трэба дадаць тых, хто выязджае з раёна. Іх жа значна больш, чым тых, хто ў яго прыязджае. Такім чынам, дэмаграфічную сітуацыю ў раёне трэба прызнаць катастрафічнай. Прыведзеныя лічбы літаральна забойчыя. У раёне вельмі абмежаваныя працоўныя рэсурсы. І галоўнае, яны ўвесь час змяншаюцца. Пры такой дэмаграфічнай сітуацыі губляюць сэнс любыя сацыяльна-эканамічныя праграмы. Бо іх некаму будзе пераўтвараць у жыццё, а галоўнае, няма для каго. Бо гэта, як зразумела, самы галоўны фактар сацыяльна-эканамічнага развіцця, а менавіта – чалавечы.

# Ушанаванне святога Юстына ў Мосарскім “Санктуарыі”

**Рэліквіі св. Юстына былі прывезеныя з Рыму і з 1838 года знаходзяцца ў касцёле ў в. Мосар Глыбоцкага раёна Віцебскай дыяцэзіі.**

**Кс. Аляксей Юркайць,**
*адміністратар парафіі Мосар.*



Гэтыя рэліквіі для мосарскіх вернікаў на працягу многіх дзесяцігоддзяў сталі іх гонарам і каштоўнасцю, як герб. Яны ў вялікай пашане не толькі ў мосарскіх парафіянаў, але і жыхароў далёкіх ваколіц нават у адлегласці больш за 100 кіламетраў. Ушаноўваюць святога мучаніка як каталікі, так і праваслаўныя.

Святочныя Літургіі ў Яго гонар праходзілі 2 і 3 чэрвеня. Людзі маліліся і дзякавалі Богу праз заступніцтва святога мучаніка Юстына за захаванне каштоўнага скарбу хрысціянскай веры, за Божыя дабрадзействы, цуды, за абарону святыні ў часы ваяўнічага атэізму, маліліся аб цвярозасці сем'яў, за дзяцей і моладзь.



Пасля ўрачыстай Святой Літургіі, якую цэлебраваў душпастыр парафіі ксёндз Аляксей Юркайць, прысутныя вернікі, нягледзячы на дажджлівае надвор’е, працягнулі святкаванне разам з Заслужаным Народным фальклёрным мастацкім ансамблем “Паазер’е”, пад кіраўніцтвам Анатоля Собаля, лаўрэатам дзяржаўнай прэміі “За духоўнае адраджэнне”: спявалі песні і танцавалі прыгожыя даўнейшыя танцы.

З нагоды Урачыстасці кожны мог набыць абраз святога Юстына і кнігу-малітоўнік, у якім змешчаны малітвы, літанія на беларускай і польскай мовах да святога Юстына, а таксама гістарычны нарыс дзеяў, звязаных з рэліквіямі на нашай беларускай зямлі.

Як святы Юстын у пошуках “адзінага і праўдзівага Бога” знайшоў Хрыста, так і мы праз яго заступніцтва шукаем у сваім жыцці Бога – праўду і святло. Няхай жа святы Юстын, які ў Небе аздоблены мучаніцкай каронай, умацуе нас у сапраўднай хрысціянскай веры і шчырасці, каб мы былі годнымі Божага Валадарства.

# Беларусь рыхтуе да ўключэння ў спіс нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА традыцыю валення шапак і валёнак

**Беларусь рыхтуе да ўключэння ў спіс нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА традыцыю валення шапак і валёнак, паведаміў 7 чэрвеня на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных.**

«Цяпер беларускі бок рыхтуе да ўключэння ў спіс унікальную і самабытную традыцыю валення шапак і валёнак з воўны «Шапавальства» і адмысловую тэрміналогіі гэтай дзейнасці «Катрушніцкі лемезень», – паведаміў прадстаўнік МЗС.

Паводле яго слоў, афіцыйная дэлегацыя Беларусі на чале з пастаянным прадстаўніком пры ЮНЕСКА Аляксандрам Паўлоўскім бярэ ўдзел у 4-й сесіі Генеральнай асамблеі дзяржаў — удзельніц Канвенцыі 2003 года па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны, якая адкрылася ў штаб-кватэры ЮНЕСКА.

Падчас сесіі, у прыватнасці, будзе перагледжана аператыўная інструкцыя па выкананні канвенцыі. Прапанаваныя змяненні і дапаўненні датычацца працэдуры разгляду заявак па ўключэнне ў спісы нематэрыяльнай культурнай спадчыны, паведаміў прэс-сакратар МЗС.

Удзельнікі сесіі абмяркуюць даклад Міжурадавага камітэта па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны аб яго дзейнасці, разгледзяць пытанні расходавання сродкаў Фонду нематэрыяльнай культурнай спадчыны і абновяць спіс няўрадавых арганізацый, якія аказваюць кансультатыўныя паслугі Міжурадаваму камітэту.

У межах сесіі таксама адбудуцца выбары членаў Міжурадавага камітэта па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

*Андрэй Серада, БелаПАН*

# Мёрская даўніна

**Фадзей Шымуковіч,**
*настаўнік-пенсіянер, г. Дзісна.*

Пад такой назвай у 2011 годзе выдавалася штомесячная газета тыражом 100-150 экзэмпляраў, фарматам 20х30см на 4-х лістах, як орган музея Мёрскай СШ№3, гуртка “Арганаўты мінулага” гэтай жа школы пад кіраўніцтвам настаўніка гісторыі Ермаленка Вітольда Антонавіча, чалавека 2011 года, дыпламанта прэміі Прэзідэнта за “Культурнае адраджэнне” на сродкі добраахвотных ахвяраванняў.

За 2011 год выйшла 12 нумароў, у студзені 2012г выйшаў №1. Тэматыка самая разнастайная: матэрыялы аб знойдзеных прадметах даўніны на тэрыторыі раёна ў час праводзімых раскопак членамі гуртка “Арганаўты мінулага” пад кіраўніцтвам Ермаленка В.А., экспанаты для школьнага музея, набытыя ў час турпаходаў па тэрыторыі раёна, апісанне гісторыі населеных пунктаў раёна, якія зараз існуюць і ўжо зніклых з твару зямлі, успаміны доўгажыхароў і г.д.

Каб правесці экскурсію, неабходна выбраць самы аптымальны маршрут, мець інфармацыю гістарычных аб’ектаў на сваім шляху. “Арганаўтамі мінулага” пад кіраўніцтвам Ермаленка распрацаваны маршрут: “Вялікі залаты пярсцёнак Мёрскага раёна” і “Малы залаты пярсцёнак Мёрскага раёна”. Распрацоўваюцца і іншыя маршруты.

Штомесячнік “Мёрская даўніна” быў задуманы як мясцовае невялікае выданне, але за 2011 год набыў такую вядомасць, што ім зацікавіліся ў вобласці, рэспубліцы і нават у Латвіі, Польшчы, Расіі і Германіі. У 2012 годзе плануецца пашырыць тэматыку, павялічыць тыраж і друкарскую плошчу. Аказаць метадычную дапамогу настаўніках, якія займаюцца краязнаўствам з мясцовым матэрыялам.

Пра аўтарытэт выдання гаворыць той факт, што ў газеце №1 за 2012 год выказаліся з яе адзнакай не толькі міярчане, але і іншагароднія.

Настаўніца гісторыі Полацкай гімназіі №2, член рэдактарскага савета “Беларускага гістарычнага часопіса” Л.Б. Трыгорлава: “...захапленне выклікаюць і шырокія сувязі захавальнікаў музея з прадстаўнікамі блізкага і далёкага замежжа і таксама мэтанакіраванае іх падключэнне да пошукавай справы…”

Станоўча адгукнуліся Л.Дучыц, археолаг, кандыдат гістарычных навук з Мінска, В.Скукоўскі, доктар філалогіі з г. Альштаны, Польшча.

Жадаючым звязацца з газетай можна па адрасе: Ермалёнак В.А., вул. Гагарына,8, г. Мёры, 211930.



■ Аляксандр Івашчонак, бакалаўр гісторыі, г.Нэапаль, Італія.

# Мястэчка Глыбокае



**Працяг.**
*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624), №13(625), №14 (626), №15 (627), №16 (628), №17 (629), №19 (631), 20 (632), №21(633), №22 (634), №23 (635) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Агульны гадавы прыбытак і расходы Кляштара

Вельмі часта можна спаткацца з апісаньнем глыбоцкага кляштара Кармэлітаў, як вельмі багатага, бо сапраўды так было, як я ўжо згадваў, – быў ён найбагацейшым кляштарам Кармэлітаў босых ня толькі ў Рэчы Паспалітай, але і ў Эўропе. Аднак пры апісаньні кляштарнага маёнтку, яго нерухомасьці, варта было б прысьвяціць крыху нашае ўвагі яго прыбыткам і расходам, адкуль манахі бралі грошы і куды гэтыя грошы ішлі далей.

На самым пачатку варта згадаць, што ўжо згодна з тэстамэнтам[1] фундатара – Язэпа Корсака – "калі б у глыбоцкім кляштары было больш, чым трэба рухомых рэчаў – харчовых прадуктаў, то *[кармэліты]* могуць іх высылаць да свайго бяднейшага кляштара *[кармэлітаў]*. Аднак той кляштар павінен будзе за мяне *[Язэпа Корсака]* Пану Богу маліцца. Тое, што застанецца з грошай, касьцёльных упрыгожваньняў, золата, срэбра – то ўсё гэта павінна на вечныя часы застацца пры маім глыбоцкім касьцёле, а калі б грошай было больш, чым трэба, то ўсё гэта *[кармэліты]* павінныя будуць аддаваць на аздабленьне глыбоцкіх касьцёла і кляштара, каб там *quam splendidissime*[2] зьдзяйсьняць Божую Хвалу." Гэты ўрывак з тэстамэнту Я. Корсака вельмі дакладна апісвае, што маюць рабіць з грашамі глыбоцкія манахі. Іншымі словамі, Корсак жадаў, каб усе грошы манахі аддавалі на ўпрыгожваньне касьцёла і кляштара.

Варта таксама прыгадаць, што некалькімі радкамі вышэй, Корсак у сваім тэстамэнце напісаў, што жадае, каб глыбоцкі прыёр "быў добрым гаспадаром". Менавіта на гэтай аснове і была пабудаваная глыбоцкая эканоміка – прыёр клапаціўся, каб добра разьвівалася гаспадарка. Гаспадарка, якая добра разьвівалася, прыносіла шмат грошай, а за гэтыя грошы Кармэліты аздаблялі касьцёл і кляштар. Менавіта дзякуючы такой сыстэме, Кармэліты маглі пабудаваць і касьцёл, і кляштар, і капліцы і суконную фабрыку, аптэку, шпіталь, лазарэт, бровары, цагельню, школы і гд.

**Глыбоцкі кляштар Кармэлітаў быў найбагацейшым кляштарам Кармэлітаў босых ня толькі ў Рэчы Паспалітай, але й ва ўсёй Эўропе.**

Вяртаючыся да эканомікі, то трэба зазначыць, што сёньня людзі маюць банкі і банкавыя рахункі і туды ўкладваюць свае грошы, зь якіх бяруць працэнцы. У тыя часы было падобна, толькі замест банкаў грошы ўкладвалі ў зямлю – яна была той крыніцай ўзбагачэньня. Паколькі гэтая сыстэма залежала ад зямлі, таму і разьлічэньне вялося ў гадавым маштабе, а не так, як сёньня – месячным. Гэта было зьвязана з пасевамі і жнівамі, бо зазвычай працэнты браліся ў выглядзе харчовых прадуктаў: збожжа, садавіны, гародніны, мёду, воску і гд. Працэнты браліся таксама і ў выглядзе грошай, але кад мець грошы, то перш трэба было прадаць збожжа і гд. Таму ўсе падлікі вяліся ў гадавым плане.

Зараз варта зьвярнуцца да канкрэтыкі. Каб было прасьцей, за прыклад возьмем пач. XIX ст. На пачатку XIX ст. крыніцамі прыбытку глыбоцкага кляштара перш за ўсё былі грошы з продажу збожжа: жыта, пшаніцы азімай, аўса і ячменю. У год прыбытак са збожжа складаў 5694 срэбных руб. з усіх кляштарных фальваркаў. Як вядома, кляштар меў таксама і вялікі фруктовы сад у Глыбокім, меў таксама вялікі агарод, таму шмат садавіны і гародніны ішло на продаж – у год манахі зараблялі 230 ср. руб. Крыху больш манахі зараблялі з продажу лекаў пры кляштарнай аптэцы – 270 ср.руб. у год. З продажу соладу і з бровараў зараблялі 220 ср. руб. у год. Кармэліты таксама прадавалі сена, зь якога зараблялі аж 823 ср. руб. і 50 кап.

Вельмі прыбытковымі былі корчмы і млыны. Корчмы былі адзіным месцам "адпачынку" для сялян, а млыны адзіным месцам абмалоту збожжа. Манахі зараблялі на гэтым 1653 ср. руб. На пач. XIX ст. манахамі быў падпісаны таксама пакт[3] на каровы, згодна зь якім гадавы прыбытак складаў 531 ср. руб. Прыбытак з продажу абразікаў, крыжоў, медалікаў і гд. складаў 60 ср. руб. у год. Акрамя таго кожны гаспадар павінен быў плаціць гадавы чынш, згодна зь якім манахі павінныя былі атрымліваць 3160 с. руб і 44 кап. у год. Аднак толькі 44 гаспадары былі ў стане плаціць чынш, а іншыя падпісвалі ўмову з кляштарам, згодна зь якой адраблялі чынш у выглядзе розных прац пры фальварках. На дадатак, ад 1818 г. да 1829 г. сяляне пазычылі ў Кармэлітаў акрамя каней, кароў і гд., саміх грошай на суму 30052 руб. і 80,5 кап. дзеля аплаты царскіх падаткаў. Акрамя таго ў 1828 г. Кармэліты паклалі ў банку суму 30000 руб., ад якой, пачынаючы з 1830 г., павінныя былі атрымліваць 5% – 1500 руб. у год.

Усё вышэй пералічанае тычыцца прыбыткаў з фальваркаў, аднак былі яшчэ іншыя прыбыткі, а менавіта легацыйныя сумы. Як сама назва падказвае, гэтыя сумы былі зьвязаныя з нейкім фальваркам. Напрыклад Міхал Тышкевіч запісаў Кармэлітам 558 руб. з гадавым працэнтам 41 руб. Гэта значыць, што Кармэліты так па праўдзе не атрымалі на рукі 558 руб. – гэтыя грошы далей мела сям'я Тышкевічаў, аднак яна была павінная штогод выплачваць Кармэлітам па 41 руб. Альбо напрыклад Я. Корсак запісаў кляштару Бэрнардынаў у Будславе і Францішканам у Дзісьне па 200 руб. у год з фальварка Гнязьдзілава. Фальварак Гнязьдзілава належаў да Кармэлітаў, аднак Кармэліты штогод павінныя былі плаціць па 200 руб. толькі з прыбыткаў гэтага фальварка, такім чынам, усе лішкі ішлі да Кармэлітаў. Акрамя таго Кармэліты з цягам часу мелі таксама свае ўласныя грашовыя сумы, якія размяшчалі, напрыклад, у суседніх маёнтках – скажам так "пазыка пад працэнт", якая была замацаваная за канкрэтным фальваркам, такім чынам, калі "даўжнік" ня мог сплачваць працэнты, а грошай зьвярнуць ня мог, то ў яго забіралі фальварак.

Яшчэ адной крыніцай прыбытку кляштара былі "вечныя імшальныя забавязаньні". Шмат прадстаўнікоў шляхты жадала, каб за іх пасьля сьмерці была адпраўляная імша. Дзеля прыкладу возьмем пані Зоф'ю Шпілеўскую. Яна перад сьмерцю заказала ў Кармэлітаў 365 імшы за сябе ў год (імшу на кожны дзень), дзеля гэтага яна запісала манахам 6000 скуд з гадавым працэнтам 100 скуд. Дый за самаго фундатара Кармэліты адпраўлялі каля 4 імшы кожны дзень, таму, так па праўдзе, усе тыя маёнткі, якія Корсак запісаў манахам ,былі платай за гэтыя імшы.

Такім чынам, прыкладны агульны гадавы прыбытак глыбоцкага кляштара на пач. XIX ст. складаў 84212 руб. і 59 кап.

Што тычыцца расходаў, на што манахі выдавалі грошы, то перадусім гэта былі выдаткі на адукацыю манахаў, на кнігі для іх, вопратку і іншыя патрэбныя рэчы. У год на 32 манахаў ішло 3520 руб. Шмат грошай ішло на зарплату працаўнікам кляштара, аптэкару, доктару, на канвікт, шпіталь, лазарэт і гд. – штогод 5050 руб. Акрамя таго Кармэліты заўсёды дапамагалі сваім сялянам, даплачвалі за іх царскі падатак, мелі асобныя грошы дзеля дапамогі бедным сялянам – усяго ў год выдаткоўвалі на сялян 2545 руб. Трэба дадаць, што сваім сялянам Кармэліты пазычалі без працэнтаў і вельмі часта даравалі гэтыя даўгі, альбо дамаўляліся на адпрацаваньне, каб не руйнаваць прыватную гаспадару сялян, якія былі крыніцай узбагачэньня. Такім чынам, агульны гадавы расход кляштара складаў 14116 руб. і 44 кап. Тут варта дадаць, што Кармэліты выдаткоўвалі шмат грошай на розныя фізычныя машыны, на карціны, абразы, статуі і гд. На жаль, гэтыя выдаткі не адлюстраваныя ў расходах, аднак варта пра гэта памятаць.

Як бачна з вышэй пададзеных лічбаў, глыбоцкі кляштар Кармэлітаў быў сапраўды эканамічнай магутнасьцю нашага рэгіёну. Такі высокі ўзровень развіцця гаспадаркі ставіць наш кляштар бадай на адно зь першых месцаў на тэрыторыі былога ВКЛ. Такой гісторыяй мы можам толькі ганарыцца!

*Працяг будзе.*

**Заўвагі:**
1 завяшчаньнем.
2 *Quam splendidissime* (лац.) – як мага прыгажэй.
3 дамова, умова.

**Крыніцы прыбыткаў кляштара Кармэлітаў Босых у Глыбокім на пач. XIX ст.**

| Крыніцы прыбыткаў | Рублі | Капейкі |
|---|---|---|
| З пасеву жыта: бочак – 293,5 па 9 руб. | 2637 | |
| З пасеву пшаніцы азімай: бочак – 14 па 15 руб. | 210 | |
| З пасеву ярыва | 2847 | |
| З агародніны і фруктовых садоў | 230 | |
| З бровараў | 220 | |
| За сена: вазоў – 1647 | 823 | 50 |
| З корчмаў і млыноў | 1653 | |
| Чынш і даніна з сялянаў | 3160 | 44 |
| З пакту на кароў | 531 | |
| З аптэкі | 270 | |
| З касьцёльных акцыдэнсаў | 60 | |
| З легацыйнай сумы Міхала Тышкевіча: 558 руб. – працэнты | 41 | 40 |
| З сумы Здраеўскіх: 401 руб. – працэнты | 24 | 12 |
| З сумы Рудамінаў: 1282 руб. – працэнты | 76 | 92 |
| **Усяго:** | **12785** | **08** |

**Легацыйныя сумы кляштара Кармэлітаў Босых у Глыбокім**

| | рублі | капейкі |
|---|---|---|
| 1. Уласная сума манахаў | 6532 | 90 |
| 2. Сума Міхала Тышкевіча | 558 | |
| 3. Уласная сума манахаў | 401 | 80 |
| 4. Уласная сума манахаў | 1282 | |
| 5. Уласная сума манахаў | 1080 | |
| **Усяго:** | **9874** | **70** |

**Агульны расход кляштара Кармэлітаў Босых У Глыбокім на пач. XIX ст.**

| | рублі | капейкі |
|---|---|---|
| На ўтрыманьне 32 манахаў | 2400 | |
| На вопратку для 32 манахаў | 1120 | |
| На ўтрыманьне канвікту ў Беразьвеччы | 1606 | |
| Гадавая выплата для бернардынаў у Будславе і францішканаў у Дзісьне | 113 | 25 |
| Даплата за сялян царскага падатку | 1725 | 50 |
| На дровы і будаўніцтва для сялян | 820 | |
| На віно, воск, лой і касьцёльную бялізну | 697 | 25 |
| Зарплата для касьцёльных і кляшторных працаўнікоў, на ўтрыманьне шпіталя і лазарэту | 556 | |
| На ўтрыманьне кляштара, касьцёла, на дапамогу сялянам, за жалеза, медзь, цынк, вапну і гд. | 1762 | |
| На падарожжы манахаў (службовыя выдаткі) | 750 | |
| Зарплата для адваката, камісара, доктара, аптэкара, хірурга, эканомаў, працаўнікоў у фальваркавых палацах | 1914 | |
| На паперу, лак, пошліны | 277 | 44 |
| Гадавая выплата на Віленскую Духоўную Сэмінарыю | 375 | |
| **Усяго:** | **14116** | **44** |

| | Вечныя Імшальныя забавязаньні глыбоцкіх Кармэлітаў | Імша чытаная (у год) | Імша сьпяваная (у год) | Анівэрсарый (у год) |
|---|---|---|---|---|
| 1 | За Фундатара Язэпа Корсака | 1334 | 21 | 1 |
| 2 | За Фундатара Язэпа Корсака | 9 | | |
| 3 | За Альжбэту Гвальбэртуўну | 24 | | |
| 4 | За Міхала Тышкевіча | 156 | | |
| 5 | За Катажыну Падбіпенту | 14 | 1 | 1 |
| 6 | За Канстанцыю Корсак | 52 | | |
| 7 | За Казіміра Златкоўскага | 12 | | |
| 8 | За Ганну Шпілеўскую | 87 | | |
| 9 | За Анджэя Рудаміну | 1 | | |
| 10 | За Яна і Ёанну Корсакаў | 72 | | 1 |
| 11 | За Тэрэзу Хэлхоўскую | 14 | | 1 |
| 12 | За Мікалая Хмяльніцкага | 24 | | 1 |
| 13 | За Язэпа Кубілайця | 14 | | 1 |
| 14 | За Рэмігія Сьцяліцкага | 73 | | 1 |
| 15 | За Базыля і Мар'янну Корсакаў | 72 | | 1 |
| 16 | За Альбэртыну Плятэр | 41 | | |
| 17 | За Рэмігія і Францішку Корсак | 48 | | 1 |
| 18 | За Разалію Корсак | 12 | | 1 |
| 19 | За Антонія і Крыстыну Дубраўскіх | 12 | | |
| 20 | За Ігнаца Плескачэўскага | 48 | | |
| 21 | За Тэклю Цеханоўскую | 12 | | |
| 22 | За Гэлену Златкоўскую | 12 | | |
| 23 | За Разалію Кастравецкую | 12 | | 1 |
| 24 | За Зоф'ю Шпілеўскую | 365 | | |
| 25 | За Альжбэту Рудаміну | 4 | | 1 |
| | **Усяго:** | **2531** | **22** | **12** |

